ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 20 (119) 26 траўня - 1 чэрвеня 1995 г. Кошт 300 рублёў

*БЕЛАРУСКАЯ МОВА НАСАДЖАЛАСЯ ГВАЛТОЎНА?* - ст. 2.

*ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ ШТАНДАРАМ* - ст. 3.

*БАРУСІЯ - ЧАЦЬВЁРТАЯ БАЛТЫЙСКАЯ РЭСПУБЛІКА* - ст. 4.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## СЬВЯТА ПАД НАЗВАЮ БЭЗ

Нягледзячы на жахлівыя вынікі рэферэндуму, крыўдна прайграныя выбары і дрэнны настрой, яно ўсё ж наступіла - сьвята пад назваю бэз. Павольна і неяк зусім непрыкметна расквеціла падворкі, сады, вуліцы ў бела-ружоваварвовыя колеры. Напоўніла салодкім водарам наваколье. Прымусіла дастаць з шуфляды закінутыя юнацкія дзёньнікі і лісты, прасынацца па начах...

Ах, бэз! Цёплы бэзавы вечар! Нашыя шаснаццаць... Гэта было так нядаўна! Гэта было так даўно... І апошні званок, і выпускныя экзамены, і разьвітальны школьны баль, і сьлёзы шчасьця, і цьвёрдая ўпэўненасьць у тым, што за парогам школы нас чакаюць толькі радасьць і посьпехі...

Ты заплюшчыў вочы і няўмела, па-дзіцячаму пацалаваў мае вусны. Яшчэ, яшчэ, і яшчэ... З вялізнага бэзавага куста адляталі пялёсткі і блыталіся ў маіх валасах...

...У сваіх доўгіх-доўгіх лістах з інстытуту ты пісаў, што бясконца кахаеш і не ўяўляеш без мяне свайго існаваньня. Тваёй пяшчоты магло б хапіць на некалькі лёсаў...

...Ля нашага бэзу ўжо пятнаццаць гадоў цалуюцца іншыя хлопчыкі і іншыя дзяўчынкі. Але, я ўпэўнена, адчуваюць яны прыкладна тое ж, што некалі адчувалі мы. Гэта ўжо было з намі. І з нашымі бацькамі. І будзе з нашымі дзецьмі.

Кахайце, юныя! Каханьне - гэта тое, з чаго пачынаецца жыцьцё, перад чым усё астатняе губляе сэнс. І ніколі ня слухайце тых, хто сьцьвярджае, што ёсьць на зямлі рэчы больш важныя... Першы пацалунак, першае каханьне - яны не забудуцца ніколі. Як не забудзецца самая сьветлая і чыстая пара жыцьця - юнацтва.

Вось чаму ў канцы траўня, калі расьцвітае бэз і ў школах зьвіняць разьвітальныя званкі, нейкае невытлумачальнае прадчуваньне шчасьця вяртае мяне ў тую далёкую пару, калі дрэвы здаваліся вялізнымі, дарослыя - усе без выключэньня - разумнымі, а жыцьцё - бясконцым сьвятам. Я па добрай школьнай звычцы ліхаманкава вышукваю на беласьнежнай гронцы бэзу кветачку з пяцьцю пялёсткамі. Каб праглынуць яе на ўдачу. Можа, нарэшце, пашанцуе?

**Ала БІБІКАВА.**




## СТАН ЭКАНОМІКІ ЗАСТАЕЦЦА СКЛАДАНЫМ

**Чарговая прэс-канферэнцыя, якая адбылася ў Гарадзенскім аблвыканкаме была прысьвечана стану эканомікі вобласьці ў бягучым годзе. Ацэньваючы стан эканомікі вобласьці, намесьнік старшыні аблвыканкама М.Бяляеў назваў яго "вельмі складаным".**

У канцы мінулага года пачаўся рост аб'ёмаў прамысловай вытворчасьці. За першы квартал бягучага года яго мелі 79 з 211 знаходзячыхся ў вобласьці прадпрыемстваў. Але ж гэта ў асноўным буйныя прадпрыемствы. Невялікія ж і сярэднія зьменшылі аб'ёмы вытворчасьці. У першую чаргу гэта тычыцца прадпрыемстваў лёгкай прамысловасьці. Вытворчасьць тавараў народнага спажываньня зьменшылася ў параўнаньні з мінулым годам прыкладна на 20 працэнтаў. Асноўныя прычыны - адсутнасьць ці недахоп у прадпрыемстваў абаротных сродкаў, складанасьці са збытам прадукцыі. На Гарадзеншчыне працягвалася таксама зьніжэньне аб'ёмаў вытворчасьці ў будаўніцтве, грузавых перавозак (пры павялічэньні пасажырскіх), сельгаспрадукцыі. Акрамя таго, прадпрыемствы маюць вялікую дэбіторскую і крэдыторскую запазычанасьць.

Выйсьце са склаўшагася становішча бачыцца ў адноснай стабілізацыі беларускага рубля, адмене пошлін на тавары, якія пастаўляюцца ў Расею, перапрацоўцы прадпрыемствамі Гарадзеншчыны давальніцкай сыравіны, чым зараз займаецца тое ж вытворчае аб'яднаньне "Азот".

Вялікія надзеі ўскладаюцца на зьнешнеэканамічную дзейнасьць. Прадпрыемствамі вобласьці экспартавана прадукцыі на 47 мільёнаў доляраў, а імпартавана - 6,8 мільёна. На Гарадзеншчыне зарэгістравана 147 сумесных прадпрыемстваў. Але ж іх дзейнасьць, на думку М.Бяляева, нельга лічыць дастаткова эфектыўнай, а 68 практычна не пачыналі яе. Тлумачыцца гэта недасканаласьцю нашага заканадаўства. Але ж і іншаземцы нярэдка падводзяць беларускіх партнёраў - несвоечасова разьлічваюцца за прадукцыю.

Адказваючы на пытаньні журналістаў, М.Бяляеў паведаміў, што няма перспектывы, якая б абнадзейвала, для Гарадзенскага прадзільна-нітачнага аб'яднаньня. Шукаюцца магчымасьці пастаўкі для яго бавоўны ня толькі з Узьбекістана, а з таго ж Кыргыстана, але ж канкрэтна пакуль нічога ня вырашана. Распрацоўваецца пытаньне аб перапрафіляваньні прадпрыемства для перапрацоўкі ільновалакна, але пра канкрэтныя вынікі казаць рана.

М.Бяляеў пацьвердзіў, што ў сувязі з тым, што Гарадзенскае ВА "Хваля" самастойна ня здолела пераадолець складанасьці, зьвязаныя з перапрафіляваньнем вытворчасьці, прынята рашэньне аб яго аб'яднаньні з заводам "Радыёпрыбор". Тым больш, што прадпрыемствы падпарадкоўваюцца аднаму міністэрству, сьпецыялізуюцца на вытворчасьці аднолькавай прадукцыі. Ён таксама паведаміў, што хаця выкананьне бюджэта вобласьці на бягучы год ажыцьцяўляецца ў межах кантрольных лічбаў, расходная яго частка перавышае даходную, па-ранейшаму не завершаны выплаты за энерганосьбіты.

**А.ДУК.**



## ІНТЭГРАЦЫЯ БЕЗ РЭФЕРЭНДУМУ

**Прамыслова-гандлёвая Палата Беластока сумесна з Прамыслова-гандлёвай Палатай Саюза Палякаў Беларусі і Домам навукі і тэхнікі Горадні пад патранажам Гарадзенскага гарвыканкама праводзяць міжнародную шматгаліновую стала працуючую ў рэжыме двух месяцаў выставу.**

На гэты раз свае тавары вытавілі ў Горадні чатырнаццаць замежных фірмаў, а таксама сем гарадзенскіх дзяржаўных прадпрыемстваў. Наведвальнікі выявілі цікаўнасьць да большасьці тавараў, выстаўленых у зале Дома навукі і тэхнікі. Вялікай грамадой наведвальніцы-жанчыны тоўпяцца ля секцыі беластоцкай фірмы "Дэкор-Тэкс". Фірма сьпецыялізуецца на вырабе дэкаратыўных гардзін, фіранак. Спадар Леон Панчоха - уладальнік гэтай фірмы.

"Дэкор-Тэкс" сьпецыялізуецца на вырабе тавараў быту. На сёньня фірма мае дзелавыя стасункі з Санкт-Пецярбургам, Масквой. Зараз прысьпеў час выйсьці і на беларускі рынак. Менавіта гэтаму і спрыяе выстава ў Горадні. Невялікія замовы ад беларускіх прадпрымальнікаў даюць добрыя падставы меркаваць, што прадукцыя "Дэкор-Тэкс" на Беларусі будзе мець попыт.

Ля кожнай секцыі - людзі, ля кожнай - зацікаўленыя гутаркі. Галіна Андрашчук - дырэктар Дома навукі і тэхнікі - дазнаўшыся, што газета "Пагоня" - адзінае ў Горадні друкаванае выданьне, якое трапляе ў суседнія Польшчу і Летуву, - ахвотна пагаджаецца даць інтэрв'ю. "Наша выстава мае галоўную мэту - знаёмства дзелавых людзей Беласточчыны і Гарадзеншчыны. Цікаўнасьць да выставы бізнэсмэнаў, пакупнікоў болей і болей пераконвае мяне, што Горадня з яе выгадным геаграфічным становішчам стане праз некаторы час яднаючым мастом паміж дзелавым Захадам і Усходам".

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ПАЛУБОК ЗНОЎ ПЕРАМОГ ГІРАСА

**Судовая калегія па грамадзянскіх справах Гарадзенскага абласнога суда разгледзела касацыйную скаргу Г.Гіраса на рашэньне суда Кастрычніцкага раёна г.Горадні ад 10 сакавіка бягучага года (глядзіце "Пагоню" N 11). "Без удовлетворения" - такое было рашэньне.**

Цяпер на працягу месяца (да 10 чэрвеня) "Гродзенская праўда" і Г.Гірас павінны публічна прынесьці прабачэньні дэпутату гарсавета Іосіфу Палубку. Акрамя таго, яны павінны выплаціць яму кампенсацыю за маральны ўрон у памеры: Г.Гірас - 2 млн.рублёў, "Гродзенская праўда" - 500 тыс.рублёў, а таксама аплаціць напалову судовыя расходы - 331 тысячу і 6 тысяч дзяржпошліны.

**Ул.інф.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Як стала вядома, Іосіф Палубок зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты абласнога Савета па Томінскай акрузе N 19. Жадаем посьпехаў!**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ ЖЫЦЬ!

### УРАЖАНЬНІ СЯБРА ЎЧАСТКОВАЙ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ І РЭФЕРЭНДУМУ

**Як сябру ўчастковай камісіі па выбарах і рэферэндуму мне давялося працаваць з так званай "выяздной" урнай. Уражаньняў шмат, але чытачам "Пагоні" прапаную толькі тры.**

**УРАЖАНЬНЕ ПЕРШАЕ**

Дом N 1 па вуліцы Антонава. Зайшлі ў кватэру па адрасу, які быў у нашым дадатковым сьпісе, у які былі ўнесены тыя людзі, якія самі ня могуць прыйсьці на выбарчы ўчастак. За сталом сядзяць дзьве бабулі, якім гадоў пад восемдзесят. Прынялі нас ветліва, але адразу зазначылі, што яны рускія і галасаваць будуць за рэферэндум. Маўляў, Беларусь - гэта не краіна, а частка Расеі і што другой мовы, акрамя рускай, тут не павінна быць. Акрамя таго, мы пачулі нямала абразьлівых слоў у адрас нашага прэзідэнта. Што тычыцца выбараў у дэпутаты, то яны запыталі, хто з іх рускі. Я адказаў, што ня ведаю. Тады яны пачалі чытаць услых прозьвішчы і імёны, выбіраючы рускага. На жаль, як сябра камісіі я ня змог іх агітаваць і ня меў права нічога гаварыць насуперак, хаця пасьля ўсяго мне вельмі не хацелася даваць ім бюлетэні.

**УРАЖАНЬНЕ ДРУГОЕ**

У тым жа доме таксама бабулька-пенсіянерка з парога нам сказала, што яна беларуска, нарадзілася на Беласточчыне, і што гэты рэферэндум яе абражае. А вось што выкрэсьліваць, яна ня ведала. Але потым успомніла, што па тэлебачаньню паказвалі, як будзе галасаваць прэзідэнт і зрабіла ўсё наадварот. Што да выбараў, то яна ў першую чаргу шукала ў бюлетэні прадстаўніка ад БНФ. Такім чынам, на маіх вачах быў зароблены першы голас за Кастуся Жыня, які, дарэчы, першым і прайшоў па нашым участку. Такіх людзей, як гэтая бабулька, было шмат.

**УРАЖАНЬНЕ ТРЭЦЯЕ**

Большасьць людзей ня ведала, як галасаваць па рэферэндуму і за каго з кандыдатаў. Гэта гаворыць аб тым, што выбары былі не падрыхтаваны, а рэферэндум - проста навязаны.

Пасьля таго, як старшыня камісіі (дарэчы, рускі) вярнуўся з раённай выбарчай акругі і сказаў, што рэферэндум і выбары праходзяць "па-прэзідэнцкі", я падумаў: няўжо наш народ сьляпы? Няўжо ніколі не выпраміць крылы? Няўжо ня бачыць, як ім круцяць тыя, каму патрэбна ўлада? І няўжо той, хто круціць гэтую машыну, не баіцца Бога?

Мае думкі абарваў голас старшыні камісіі - "но мне кажется, что белорусы свое всё равно возьмут".

Возьмуць!

Інакш і быць ня можа.

Беларусь будзе жыць!

**В.САЛЫГА.**

## «НЯ БУДЗЬЦЕ ПАСІЎНЫМІ І РАЎНАДУШНЫМІ!»

**Вынікі першага тура парламанцкіх выбараў і рэспубліканскага рэферэндуму выклікаюць вялікі непакой і заклапочанасьць, бо яны сьведчаць перш за ўсё аб сацыяльнай і палітычнай апатыі беларускіх выбаршчыкаў. Раўнадушныя, абыякавыя адносіны членаў грамадзтва - гэта страшэнная хвароба, якая ў выніку прыводзіць да нараджэньня фашысцкіх і таталітарных рэжымаў, да разбурэньня дзяржаўных інстытутаў. З маўклівай згоды раўнадушных людзей, як пісаў Бруна Ясенскі, нараджаецца здрадніцтва, падман, злачынства.**



Якія ж грамадзкія праблемы, на мой погляд, як дзіцячага ўрача, прафесара, якая ўзначальвае кафедру мединстытута, Гарадзенскі абласны камітэт "Дзеці Чарнобыля", дасьледчую групу "Урачы - дзецям", павінны хвалявацъ беларускае грамадзтва? Няма праблемы больш важнай для грамадзтва, чым праблема здароўя чалавека. Прайшло 5 гадоў, як уся тэрыторыя Рэспублікі Беларусь была аб'яўлена зонай экалагічнага бедства, што абумоўлена ня толькі чарнобыльскай аварыяй, але і бескантрольным выкарыстаньнем сельскагаспадарчай хіміі, нізкай экалагічнай культурай прамысловых і аграрных тэхналогій. Гэта прывяло на працягу апошніх дзесяці гадоў да павялічэньня агульнай захворваемасьці ў тры разы, зьніжэньня нараджальнасьці на 25 працэнтаў, да павышэньня росту злаякасных новаўтварэньняў, на 32 працэнты павялічылася колькасьць бясплодных бракаў, па дадзеных гарадзенскага раддома, у тры разы павялічылася колькасьць прыроджаных парокаў у дзяцей. Трэці год Беларусь знаходзіцца ў дэмаграфічным мінусе, гэта значыць ня мае прыросту насельніцтва. Калі не прыняць тэрміновых мер, то ў бліжэйшай будучыні размова будзе ісьці аб выжываньні беларусаў як нацыі. У сувязі з гэтым насьпела вострая неабходнасьць стварэньня Гарадзенскага абласнога дзіцячага экалагічнага цэнтра, што дазволіць арганізаваць пастаянны кантроль і аздараўленьне дзяцей, якія пражываюць у экалагічна небясьпечных раёнах Гарадзеншчыны. На стварэньне такога цэнтра маецца дазвол Міністэрства аховы здароўя, аднак мясцовыя ўлады адмаўляюцца гэты цэнтр фінансаваць.

Другая праблема - гэта маральна-эстэтычнае выхаваньне дзяцей. Яно павінна ўключаць:

1. Глыбокае вывучэньне гісторыі Беларусі.

2. Прапаганду культурнай спадчыны Беларусі.

3. Больш шырокае ўключэньне ў праграмы радыё і тэлебачаньня маладзёжных праграм.

4. Уключэньне ў школьную праграму пытаньняў экалагічнага выхаваньня.

5. Выключэньне з тэлевізійных праграм фільмаў, якія прапагандуюць сэкс, гвалт, забойствы.

Трэцяя праблема - яўнае і скрытае беспрацоўе, якое, перш за ўсё, больш датычыцца жанчын. Неабходна стварэньне дзяржаўнай прававой базы для абароны інтарэсаў працуючых жанчын, стварэньне свабоднай эканамічнай зоны, якая дазволіць вырашыць многія эканамічныя праблемы.

Чацьвёртая праблема - забесьпячэньне медыцынскай дапамогі насельніцтву. Лічу неабходным стварэньне дзяржаўнай заканадаўчай базы для арганізацыі платных медыцынскіх паслуг і лекавага забесьпячэньня.

Такія асноўныя прынцыпы маёй перадвыбарчай праграмы.

На заканчэньне хачу заклікаць гарадзенцаў прыйсьці на свае выбарчыя ўчасткі і аддаць свае галасы за тых кандыдатаў, якіх вы лічыце годнымі для абраньня ў Гарадзенскі абласны Савет. Ня будзьце пасіўнымі і раўнадушнымі! У кожнага з вас ёсьць вялікі выбар.

**Л.ЕВЕЦ,**
**кандыдат у дэпутаты Гарадзенскага абласнога Савета, прафесар.**

## БАРАНІ БОЖА ТАКОГА БРАТЭРСТВА

Два сівых ветэрана, раскрасьнеўшыся, расказвалі мне, што рускія і беларусы - гэта родныя браты. Як аргумант, даводзілі, што ў нас з расейцамі адны і тыя ж карані, мэты, а самае галоўнае - рускія, як і беларусы, ну зусім ня маюць у паводзінах агрэсіўнасьці. Яны добрыя, спагадлівыя, некарысьлівыя. Усе намаганьні варожай прэсы паказаць рускага грамадзяніна ваяўнічым - ня больш чым выдумкі ЦРУ і недабітых нацыяналістаў з ліку былых ворганаў савецкай улады, якія атабарыліся на Захадзе. Весьці спрэчкі, дыскусіі са старымі на працоўным месцы проста не хапае часу. Адказаць жа праз газету можна.

Па-першае, шаноўныя ветэраны, вы моцна памыляецеся называючы расейцаў неагрэсіўнымі і некарысьлівымі. Вазьміце і пачытайце літаратуру, а з ёй і гісторыю Расеі. Гэта, так бы мовіць, татальная вайна. Давайце прыгадаем для пачатку паходы генералісімуса А.Суворава ў Эўропу. Што было ў Эўропе рабіць расейскаму войску? Мэта тут відавочная: настрашыць народы Эўропы ваеннай магутнасьцю Расеі. Ці ж гэта не агрэсія і цынічная карысьлівасьць? Пра дабрату і ўвогуле няма сэнсу шмат казаць. Палітыка пугі і перніка расейскіх самадзержцаў на Каўказе, Сярэдняй Азіі, Паволжы. Дэспатызм маскоўскіх князёў у адносінах да сваіх блізкіх суседзяў - Ноўгарада Вялікага, Пскова. На кол садзілі маскоўскія князі тых, хто быў з імі нязгодны. А колькі хаўрусаў супраць нашай беларускай дзяржаўнасьці, патаемных і відавочных, што давілі нас, беларусаў, да свайго самавынішчэньня? А ці ж можна такое назваць дабратой? Што такое спагадлівасьць па-расейску, таксама агульнавядома. Асабліва "спагадлівасьць" суседзяў-дабрадзеяў выявілася зараз, калі мы пачалі адраджаць сваю гістарычную памяць, дзяржаўнасьць. Халодны, жорсткі, нахабны разьлік на сваё панаваньне, барацьба за свае інтарэсы - ваенныя, эканамічныя, транзітныя - даюць поўнае ўражаньне "братэрства" беларусаў з праявамі маскоўскімі коламі.

Мой адказ ветэранам - гэта няпоўны пералік тых "славутых" рысаў характару "нехельмяжнага расейца". Увесь сьвет дзівіцца з іх і асьцерагаецца іх. А цяпер вышэйзгаданае паспрабуйце дараўнаць да беларуса, які нават замежнай мове ў сваей краіне надаў статус роўнай з дзяржаўнай, беларускай.

**М.ВАЛЕНТА.**

## ЧАРГОВАЕ ПАРУШЭНЬНЕ ЗАКОНУ

З франтона рэзідэнцыі прэзідэнта Беларусі зьняты беларускі Дзяржаўны герб "Пагоня". Гэта адбылося 23 траўня. У той жа дзень герб зьнялі і з Дома ўраду.

Намесьнік старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па гісторыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны А.Трусаў заявіў, што падобныя дзеяньні - "чарговае парушэньне вышэйшай выканаўчай уладай заканадаўства па сімволіцы". Па яго словах, "нягледзячы на наяўнасьць папярэдніх вынікаў рэферэндуму, законы аб дзяржаўным гербе і сцязе ніхто не адмяняў".

**"Э.-Х."**

## ФІНАНСАВАЦЬ ВЫБАРЫ ПРАКТЫЧНА НЯМА КАМУ

Скончылася рэгістрацыя кандыдатаў у Магілёўскі абласны Савет. На адно дэпутацкае месца прэтэндуюць у сярэднім па тры чалавекі. Больш 60 працэнтаў кандыдатаў - кіраўнікі розных узроўняў. Па колькасьці вылучаных прадстаўнікоў лідыруюць камуністы, за імі - БНФ і БСДГ.

У выбарчай камісіі паведамілі, што грошы выдзелены толькі на работу членаў камісіі ў дзень выбараў. Іх фінансаваньне ідзе з мясцовага бюджэта, які практычна пусты. Таму кандыдатам давядзецца разьлічваць выключна на сябе.

## ЛІДЭР «ПРАВАГА РЭВАНШУ» СТАЎ БЕСПРАЦОЎНЫМ

Пасьля дэманстрацыі па Беларускім тэлебачаньні фільма "Нянавісьць: дзеці ілжы" лідэр арганізацыі "Правы рэванш" Славамір Адамовіч напісаў заяву аб звальненьні з рэдакцыі "Настаўніцкай газеты".

У тэлефоннай размове С.Адамовіч патлумачыў, што гэта рашэньне абумоўлена жаданьнем "не падстаўляць" кіраўніцтва газеты. Адносна асабістых планаў на бліжэйшую будучыню ён паведаміў, што некаторы час яму, хутчэй за ўсё, наўрад ці ўдасца знайсьці прыстойную работу пасьля таго, як яго "изобразили" ў фільме. Лідэр "Правага рэваншу" заявіў, што, магчыма, падасьць у суд на аўтара фільма, які абразіў яго гонар і годнасьць. Праўда, ён ня ўпэўнены, што выйграць працэс яму ўдасца, таму і сумняваецца ў мэтазгоднасьці звароту ў падкантрольны прэзідэнту суд. Увогуле, па словах С.Адамовіча, пасьля дэманстрацыі фільма ў грамадзтве ўзрасьлі антынацыянальныя настроі, невядомыя людзі спрабавалі пабіць аднаго з членаў "Правага рэваншу".

Каментуючы рашэньне Менскай гарадзкой пракуратуры ўзбудзіць супраць лідэра "Правага рэваншу" крымінальную справу за заклік да тэрору, С.Адамовіч адзначыў, што ён нікога не заклікаў тэрарызаваць чыноўнікаў, а толькі выклаў свой пункт гледжаньня адносна палітычнай сітуацыі ў краіне. Да таго ж, як высьветлілася, ён даведаўся пра тое, што супраць яго ўзбуджана крымінальная справа, ад сяброў і ніякіх афіцыйных дакумантаў з пракуратуры на гэты конт да гэтага часу не атрымліваў.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА НАСАДЖАЛАСЯ ГВАЛТОЎНА?

Вялікі рэзананс у Бабруйску выклікала інтэрв'ю старшыні гарвыканкама У.Рамаidноўскага газеце "Бобруйский курьер" ад 18 траўня.

Асабліва азадачылі чытачоў выказваньні Раманоўскага аб дзяржаўнай сімволіцы і мове: "Ведь та же самая символика - она не давала спокойно жить многим людям. Точно так, насильственно, насаждался белорусский язык. Насилие же с народом могут творить только оккупанты".

## У ВІЦЕБСКУ ЗЯЛЁНАГА КОЛЕРУ СТАЛА БОЛЕЙ

На наступны ж дзень пасьля паказу па Беларускім тэлебачаньні сюжэта аб падняцьці новага сьцяга над рэзідэнцыяй прэзідэнта, над Кастрычніцкім райвыканкамам Віцебска зьявіўся зялёна-чырвоны сьцяг. Цікава, што за два тыдні да гэтага райвыканкам аплаціў заказаныя раней два дзесяткі бел-чырвона-белых сьцягоў.

Праз некалькі дзён зялёна-чырвоныя сьцягі зьявіліся і на іншых будынках выканаўчай улады. "Пагоню" пакуль не кранаюць, бо на выраб новых гэрбоў неабходна выдаткаваць больш грошай і намаганьняў.

## ГАЙДУКЕВІЧ ІДЗЕ НА ПАВЫШЭНЬНЕ

Паводле інфармацыі з дасьведчаных міжпартыйных кулуараў, вядомы многім па дзейнасьці ў Народным руху Сяргей Гайдукевіч напярэдадні першага тура выбараў заявіў, што калі ён ня стане дэпутатам парламанта, то перакваліфікуецца ў дачнікі. З выбарнай дыстанцыі ён сышоў у першым туры. Але дачным самотнікам ня стаў, бо пераходзіць на працу ў прэзідэнцкую адміністрацыю.

**СІМ**

# СУМЕЖЖА

## БАРУСІЯ - ЧАЦЬВЁРТАЯ БАЛТЫЙСКАЯ РЭСПУБЛІКА?

**У Берліне адбыўся сход клуба палітыкаў. На ім з дакладам выступіў прадстаўнік Саюза Цэнтра Летувы Рамуальдас Озалас. Ён падкрэсьліў, што праблема Калінінграда зьяўляецца праблемай заканчэньня Другой сусьветнай вайны, што рашэньні, зьвязаныя з гэтым краем, павінны прымацца ў міжнародным маштабе, і што жадаючы цьвёрда і ясна завяршыць мірны працэс у Эўропе, Калінінградзкая вобласьць не павінна належаць ні да Нямеччыны, ні да Польшчы, ні да Расеі. Найбольш спрыяльным варыянтам было б узьнікненьне і разьвіцьцё чацьвёртай балтыйскай рэспублікі з выразнай інтэграцыяй у рэгіён Балтыйскага мора згодна са склаўшайся ў рэгіёне агульнай юрысдыкцыяй.**

На думку Озаласа, такая пазіцыя была б добрай падставай для далейшых перагавораў пра бясьпеку Летувы, пра будучыню Калінінграда, якую, відаць, добразычліва ацанілі б ня толькі Нямеччына і Польшча, але і жыхары і адміністрацыя Калінінградзкай вобласьці. На просьбу паразважаць пра тое, як на гэта будзе рэагаваць Расея, Рамуальдас Озалас сказаў, што тэндэнцыі разьвіцьця сьвету паказваюць, што адбываецца дэцэнтралізацыя, у тым ліку і ў Расейскай Федэрацыі.

Вайна ў Чачні зьяўляецца адной з найбольш яскравых спробаў цэнтралізаваць рэгіён Расеі. Аднак, на яго думку, вынікі будуць адваротныя, "Гэта перадумова, аднак я ўпэўнены, што Калінінградзкая вобласьць ня можа мець ніякіх іншых адносінаў з Расеяй, як толькі стаўшы асобным, ня ведаю, якой сілы, юрыдычным суб'ектам", - сказаў Озалас. "Можа гэта будуць федэратыўныя сувязі, як гэтага жадае Расея, або гэта будзе канфедэрацыя (гэтага жадае Калінінградзкая вобласьць). Усё гэта нашая справа і справа Эўропы, - адзначыў ён - Калі мы будзем прытрымлівацца дастаткова зразумелай пазіцыі, то, відаць, зможам аказаць уплыў. І толькі тады мы зможам гаварыць пра рэальную дэмілітарызацыю і гуманізацыю гэтай вобласьці".

На адбыўшайся нядаўна польска-летувіскай канферэнцыі Р.Озалас выказаў думку, што ў сёньняшнім разуменьні Цэнтральнай Эўропай становяцца Чэхія, Вугоршчына, Польшча, а дзяржавы Балтыі і паўднёвыя краіны цэнтральнай паласы Эўропы выпадаюць з кантэксту Цэнтральнай Эўропы, а гэта аўтаматычна выклікае масу праблемаў з інтэграцыяй у Заходнюю Эўропу.

Утварэньне чацьвёртай балтыйскай рэспублікі - гэта ня новы падыход да праблемы. У свой час па гэтаму пытаньню выказваўся і Томас Венцлова, паэт, публіцыст, палітык, які жыве ў Злучаных Штатах. Паводле яго, аптымальным рашэньнем праблемы Калінінграда было б ператварэньне вобласьці ў рэспубліку. "Там змагла б застацца частка сёньняшняга насельніцтва (некаторыя самі пераехалі б у Расею), там магло б абаснавацца нямала летувісаў і немцаў (ужо сёньня сюды прыязжаюць немцы з Паволжжа). У такой дзяржаве, як і ў Швайцарыі, магло б існаваць некалькі моў, напрыклад, летувіская, нямецкая, руская. Можна было б падумаць і аб наданьні акрэсьленага статуса старадаўняй прускай мове, якую на сёньняшні дзень спрабуюць адрадзіць навукоўцы розных краін. Мне, напрыклад, было б вельмі прыемна, - лічыць Венцлова, - калі б на гэтай мове быў напісаны асноўны тэкст Канстытуцыі, гімн, рабіліся б надпісы на дзяржаўных помніках і г.д. Дзяржава магла б назвацца Прусіяй, або, паколькі назва Прусія выклікае непажаданыя асацыяцыі, Барусіяй (старажытны лацінскі назоў гэтай зямлі). Безумоўна, многія будуць пярэчыць, што частка Усходняй Эўропы - гэта не Швайцарыя, што з гэтага нічога не атрымаецца. Аднак усходнеэўрапейскія народы ніколі ня стануць пашвайцарску цывілізаванымі, калі ў іх ня зьявіцца нагода дасягнуць гэтага".

Такія разважаньні наконт Калінінградзкай вобласьці суседзяў, а дакладней кажучы, аднаго суседа - Летувы. Іншыя бакі пакуль маўчаць.

**С.У.**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

На паседжаньні камісіі па справах грамадзянства, якую ўзначальвае прэзідэнт Летувы Альгірдас Бразаўскас, грамадзянства Летувы, як выключэньне, атрымалі 30 асоб, якія жывуць у іншых дзяржавах. Сярод іх і прадстаўнік праваслаўнай царквы ў Летуве і Вільні арцыбіскуп Хрызастом.

* * *

У Вашынгтоне выйшаў новы бюлетэнь Сусьветнага Банку. Паводле яго, Летува займае чацьвёртае месца па росту нацыянальнага прадукту ў групе дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы. Апярэджваюць яе толькі Альбанія, Эстонія і Польшча. Латвія займае трынаццатае месца, Расея - дваццатае.

* * *

Група дэпутатаў Дзяржаўнай Думы Расеі, якая пабывала ў Летуве, сьцьвердзіла, што ў гэтай краіне няма нацыянальнай дыскрымінацыі. Кіраўнік групы Я.Ваявода атрымаў і перадаў камісіі па правах чалавека ў летувіскім Сойме толькі дзьве скаргі - Валерыя Іванова, былога лідэра "Адзінства" і Івана Кучарава, актыўнага дзеяча гэтай арганізацыі. Ім пагражае высяленьне з Летувы.

* * *

Сейм Летувы ратыфікаваў Эўрапейскую канвенцыю 1983 года аб перадачы асуджаных асобаў. Згодна ёй Летува зможа вярнуць сваіх грамадзян для адбываньня пакараньня ў сябе і з той жа мэтай выдаваць замежных злачынцаў тым дзяржавам, грамадзянамі якіх яны зьяўляюцца.

* * *

Паводле дадзеных Дэпартаманту статыстыкі Летувы ў красавіку прамысловыя прадпрыемствы прадалі на 5,8 працэнтаў прадукцыі менш, чым у сакавіку. Прычына, паводле некаторых меркаваньняў, у тым, што ў красавіку было 19 працоўных дзён, а ў сакавіку - 23. Кіраўнікі прадпрыемстваў аднак сьцьвярджаюць, што галоўная прычына ў зьмяншэньні заказаў.

* * *

Сьпецыяльная служба летувіскай памежнай паліцыі дапрасіла затрыманых у Польшчы парушальнікаў летувіскай мяжы з мэтай выкрыцься іх праваднікоў і жаўнераў, якія ім дапамагалі. Існуе падазрэньне, што ажно палова працаўнікоў аховы мяжы дапамагае ўцекачам.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

## РАСЕЯ

### 30 МІЛЬЁНАЎ РАСЕЙЦАЎ ПАСПЫТАЛІ НА САБЕ ДЫЯКСІН

Шкоднае ўзьдзеяньне дыяксіну (прадукта хлорнай прамысловасьці) паспыталі на сАбе 30 мільёнаў расейцаў, што пражываюць у 23 рэгіёнах Расейскай Федэрацыі.

Менавіта пра гэта і гаварылася падчас прэсканферэнцыі, якую арганізавалі супрацоўнікі міжнароднай экалагічнай арганізацыі "Грынпіс".

Прэс-канферэнцыя была прысьвечана дакладу "Грынпіс" "Атручаныя гарады" і адбылася ў Расейска-Амерыканскім інфармацыйным прэс-цэнтры.

Як паведамілі супрацоўнікі "Грынпіс", у Маскве існуе 17 прадпрыемстваў, адыходамі якіх зьяўляецца дыяксін.

### МАСКВА

"Голландскую терпимость - на экспорт!", "Наркотики, подконтрольные и легализованные!", "Не выталкивайте наркоманов на обочину!". Пад такімі лозунгамі прайшла дэманстрацыя перад будынкам пасольства Нідэрландаў у Расеі. Яна адбылася ў рамкаж міжнароднай мабілізацыйнай кампаніі ў падтрымку палітыкі, праводзімай урадам Нідэрландаў у адносінах да лёгкіх наркотыкаў.

Правядзеньне кампаніі выклікана ціскам на Нідэрланды з боку іншых краін Эўрапейскага Саюзу. Мэта - прымусіць галандзкае кіраўніцтва зьмяніць заканадаўства краіны ў адносінах да наркотыкаў. Удзельнікі акцыі перадалі супрацоўнікам пасольства адозву да ўрада і парламату Нідэрландаў. Яе падпісаў шэраг дзеячоў культуры, навукі і палітыкі Расеі. Аўтары петыцыі заклікалі галандзкае кіраўніцтва не саступаць аказанаму ціску і працягваць праводзіць сваю палітыку ў адносінах да наркотыкаў, а таксама зьвярнуцца да іншых краін Эўрапейскага Саюза з заклікам выступіць ініцыятарамі дэнансацыі канвенцый ААН па наркотыках ад 1961 і 1988 гадоў. Гэтыя канвенцыі абавязваюць дзяржавы да правядзеньня прагібіцыянісцкай палітыкі.

У пасольстве прадстаўнікоў дэманстрантаў прынялі эканамічны дарадчык пасольства Франк Тэрбарг і другі сакратар пасольства Анна-Марыя Руйгрок. Яны паабяцалі перавесьці петыцыю дэманстрантаў на галандзкую мову і перадаць яе ў Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства замежных спраў сваёй дзяржавы. Імі была выказана таксама ўпэўненасьць у тым, што ўрад Нідэрландаў ня зьменіць сваю палітыку ў адносінах да наркотыкаў.

У акцыі ля будынка пасольства Нідэрландаў прыняло ўдзел каля 20 чалавек.

Маніфестацыі ў рамаках Міжнароднай мабілізацыйнай кампаніі ў падтрымку палітыкі ўрада Нідэрландаў у адносінах да наркотыкаў прайшлі больш чым у ста гарадах Эўропы, Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі, у тым ліку ў Лондане, Парыжы, Нью-Ёрку, Багоце і іншых буйных гарадах. Кампанію падтрымалі каля 50 розных арганізацый.

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

Зьлёт "юных ленінцаў" прайшоў 21 траўня ў горадзе над Нявой. Ён прысьвячаўся 73-годдзю стварэньня Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У.І.Леніна. На зьлёце прысутнічала каля 20 чалавек.

**"Э.-Х."**

## УКРАІНА

### ЭЎРАПЕЙСКІ САЮЗ – УКРАІНЕ

Эўрапейскі Саюз мае намер павялічыць раней дадзены Украіне крэдыт на суму 300 мільёнаў долараў да 900 мільёнаў. Крэдыт павялічаны таму, што кіраўніцтва ЭС задаволена ходам эканамічных рэформаў на Украіне, якая апошнім часам не затрымлівала выплаты па крэдытах. Акрамя крэдытаваньня рэформаў, частка грошай пойдзе на работы па закрыцьцю Чарнобыльскай АЭС.

**СІМ**

### КІЕЎ

Выдаваць прадпрыемствам грошы для выплаты зарплаты толькі пасьля падачы імі пацьверджаньня аб уплаце падаткаў і ўзносаў у Дзяржаўны пеньсійны фонд і Фонд сацыяльнага забесьпячэньня. Такое рашэньне прыняў Нацыянальны банк Украіны.

Рашэньне банка заснавана на Указах Прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы ад 16 і 31 сакавіка 1995 года аб выкананьні чарговасьці пераводу плацяжоў. Яно зьвязана з тым, што ў апошні час тэрміны выплат пеньсій парушаюцца з-за невыкананьня юрыдычнымі асобамі - суб'ектамі прадпрымальніцкай дзейнасьці і камерцыйнымі банкамі - чарговасьці плацяжоў.

* * *

"Калі на Украіне будзе прыняты закон аб выбарах са зьмешанай сістэмай, не выключана аб'яднаньне партый нацыянал-дэмакратычнай арыентацыі ў адзіную палітычную арганізацыю", - заявіў старшыня Народнага Руху Украіны Вячаслаў Чарнавіл. Ён выступіў на адкрыцьці семінара-нарады "Палітычная сітуацыя на Украіне і ўзаемадзеяньне палітычных партый у рэфармаваньні эканамічнай і палітычнай сістэмы".

Мерапрыемства арганізавана Народным Рухам Украіны пры садзеяньні Нацыянальнага інстытута дэмакратыі ЗША. У яго рабоце прынялі ўдзел каля 300 прадстаўнікоў Руху з усіх рэгіёнаў краіны. Удзельнікі семінара абмеркавалі праблемы падрыхтоўкі да парламанцкіх выбараў, шляхі рэфармаваньня эканомікі, узаемадзеяньня палітычных партый з прадстаўнікамі ўладных структур.

### ХАРКАЎ

"На Украіне неабходна стварыць цыганскі парламант, які б вырашаў пытаньні ня толькі рэгуляваньня ўзаемадзеяньня цыганскіх абшчын, але і прадстаўляў інтарэсы цыган на дзяржаўным узроўні", - гаворыцца ў распаўсюджанай заяве групы асоб цыганскай нацыянальнасьці. У ёй таксама адзначаецца, што згодна афіцыйнай статыстыцы, на Украіне жыве толькі каля 50 тысяч цыган. На думку аўтараў заявы, гэтыя лічбы не адпавядаюць рэчаіснасьці - "цыган прыкладна ў дваццаць разоў болей". Гэтая неадпаведнасьць выклікана тым, што ў многіх цыган у пашпарце ўказана іншая нацыянальнасьць.

* * *

Вучэньне ісьціны "АУМ" будзе прапаведвацца ва Усходняй Украіне. Пра гэта паведамляецца ў распаўсюджанай улётцы членаў міжнароднай рэгіянальнай арганізацыі "Вучэньне ісьціны АУМ". У ёй гаворыцца, што члены ўкраінскай абшчыны "яшчэ ня хрышчаны духам, але прайшлі адпаведную падрыхтоўку ў Расеі і будуць прапаведваць на Усходняй Украіне з мэтай уславіць ісьціну".

Мяркуецца, што духоўным цэнтрам арганізацыі "Вучэньне ісьціны АУМ" стане Данецк. Аўтары ўлёткі сьцьвярджаюць, што ганеньне на арганізацыю, якое пачалося ў Расеі, тлумачыцца, у прыватнасьці, "глыбокім крызісам рускай праваслаўнай царквы, няздольнай прапанаваць моладзі шлях да духоўнай дасканаласьці і аднаўленьня".

* * *

Каля трохсот тысяч нелегальных мігрантаў жыве ў цяперашні час на Украіне. Пра гэта паведамілі прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў краіны.

Большай часткай нелегальных мігрантаў зьяўляюцца в'етнамцы. Яны складаюць прыкладна адну трэць усіх затрыманых на чыгуначных і аўтадарожных лініях.

**"Э.-Х."**

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

### ПАЛЯК З КУФЛЕМ

**На працягу апошніх пяці гадоў у Польшчы ўзрасла колькасьць пабаў. Ірландзкія, ангельскія, альбо нямецкія пабы сталіся месцамі сустрэч знаёмых ды музычных канцэртаў. Дзякуючы ім, піва ў гэтай краіне робіцца напоем усіх грамадзкіх групаў.**

Зьбіраюцца там знаўцы піва, якім ня ўсё роўна што, з кім і дзе піць. У Англіі, на бацькаўшчыне пабаў, чалавек звычайна наведвае той самы паб на працягу ўсяго жыцьця. Апроч піва цячэ там жыцьцё мясцовых грамадзкасьцяў - асабліва датычыць гэта мужчын. У Польшчы падобную ролю выконваюць брудныя піўбары, набліжаныя да карчмы альбо гасподы. У такое месца прыходзяць часьцей за ўсё, каб заліць свой жаль, з некім пагутарыць, з некім пазнаёміцца, утапіць стрэс без гарэлкі ды агрэсіі.

Можна прыйсьці нават у рабочай вопратцы, прыводзячы з сабой сабаку. Здараецца, што людзі прыходзяць з уласным музычным інструмантам, і запрашаюць усіх да супольнай бяседы.

- У добрым пабе павінна быць некалькі гатункаў адпаведным чынам ахалоджанага піва, якое трэба падаваць у шклянках з тонкага шкла, - кажа Адам Гальбер, папулярызатар піва ў Польшчы.

Вытворцы ды кліенты згодна падкрэсьліваюць, што добры паб мусіць мець свой клімат, альбо нешта такое, што дазваляла б кліенту некалькі гадзін піць адно піва.

Многія пабы выкарысталі ўзрост папулярнасьці над Віслай гульні ў більярд, і закупілі адпаведнае абсталяваньне, іншыя ж, з увагі на месца, абмежаваліся тарчай на сьцяне, у якую можна кідаць дроцікі.

Здаецца, што паб у Польшчы стаўся адзіным месцам, дзе за адным сталом можна сустрэцца з тэлезоркай і паслом замежнай дзяржавы. У Варшаве на гэткія кантакты можна разьлічваць, між іншым, у "Irish Pub" ды "The John Bull Pub". Эксклюзіўнае ўнутранае афармленьне апошняга акрэсьлівае тып кліентаў. Разьба па дрэву, графіка на сьценах, крышталёвыя люстры, дываны на падлогах ды мэбля ў стылі XIX стагоддзя з чырвонай абіўкай: усё гэта адчужае джынсавую моладзь, якая ў сваю чаргу ахвотна наведвае клубы "ЕВ", што адчыняюцца сьпецыяльна для яе. "Klub ЕВ" у Кракаве, "Kazamaty" на Уроцлаве альбо "Eleganski Bolek" у Варшаве сталіся аднымі з наймаднейшых месцаў сустрэч моладзі. Амаль у дваццаці адчыненых дагэтуль клубах "ЕВ" штодзённа адбываюцца музычныя канцэрты.

Рок, кантры, фольк, блюз альбо джаз гучаць і ў іншых польскіх кавярнях, якія пачынаюць канкураваць з маладзёжнымі клубамі. Прадпрымальнікі, студэнты і вучні ліцэяў сьвяткуюць там дні нараджэньня, імяніны, прафесійныя посьпехі і нават вясельлі. Напрыклад, у пабе "Klub Kozla" у варшаўскім старым горадзе на ўласнай імпрэзе нядаўна весялілася асяродзе геяў.

А піцьцё пад аблезлымі будкамі, здаецца, робіцца ў Польшчы элементам гісторыі, успамінам старэйшага і сярэдняга пакаленьняў, накшталт гісторыяў пра "дабраахвотныя" першамайскія дэманстрацыі альбо пазабытыя ўжо фразы: "бурныя, несупынныя авацыі", "усеагульная падтрымка".

Прыхільнікі піва лічаць, што:

- яно дадае добрага настрою (85%);
- яно дазваляе лягчэй завязваць знаёмствы (61%);
- трэба прапагандаваць піцьцё піва (62%).

Працаўнікі піва лічаць, што:

- яно робіць людзей лянівымі (62%);
- яно вызывае агрэсію (54%);
- яно прычыняецца да распаду сем'яў (50%);
- яно некарысна ўплывае на здароўе (44%);
- яно зьяўляецца напоем ніжніх слаеў грамадства (30%).

**Аляксандар НАВІЦКІ**
**паводле матэрыялаў "WPROST",**
**Варшава.**

 







# ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

## ПАЛІТЫК І ВУЧОНЫ

**Пра дзеяча беларускага палітычнага і нацыянальна-вызваленчага руху, калабарацыяніста, вучонага і педагога Радаслава Астроўскага ў Беларусі напісана і надрукавана яшчэ зусім мала. Складаны і нялёгкі лёс быў у гэтага чалавека. Але да апошніх дзён свайго жыцьця ён аддана верыў у назалежнасьць сваёй Беларусі. У матэрыялах "Другога Усебеларускага Кангрэсу" (1954) пра Радаслава Астроўскага паведамляецца, што ён быў супрацоўнікам газеты "Наша Ніва", сябрам Цэнтральнага Камітэту Беларускай Сацыялістычнай Грамады, дэлегатам 1-га Усебеларускага Кангрэсу ад Случчыны, дырэктарам першай у гісторыі Беларусі Слуцкай гімназіі ў 1917 годзе, прафесарам матэматыкі Менскага Педагагічнага інстытута, настаўнікам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, дырэктарам Беларускага Кааператыўнага банку ў Вільні, старшынёй Таварыства Беларускай Школы, старшынёй Беларускага Дабрадзейнага таварыства, сябрам Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, віцэ-старшынёй Цэнтральнага Камітэту Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, арганізатарам і кіраўніком беларускай адміністрацыі ў Менскай, Бранскай, Смаленскай і Магілёўскай акругах, прэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады ад 1943 году. Дадаць застаецца, што Радаслаў Астроўскі нарадзіўся ў 1887 годзе на Случчыне, а памёр у штаце Мічыган (ЗША) у 1976 годзе.**

**Сёньня, пасьля лукашэнкаўскага рэферэндуму, прапаную чытачам "Пагоні" даведку Радаслава Астроўскага "АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГЕРБЕ І СЬЦЯГУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ", якая была апублікавана ў эміграцыйным часопісе "Беларуская думка" (N 7, 1965 г.). Яна - яшчэ адно сьведчаньне, што беларускія герб і сьцяг зьявіліся не ў 1951 годзе, а маюць сваю вялікую і слаўную гісторыю.**

**Сяргей ЧЫГРЫН, г.Слонім.**

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГЕРБЕ І СЬЦЯГУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**(Даведка)**

*У справе беларускага нацыянальнага сьцягу і гербу падаю тое, што мне ведама ў гэтай справе.*

*На паседжаньні Беларускага Нацыянальнага Камітэту, якое адбывалася ў Менску ў сакавіку 1917 г. (дакладнай даты ня памятаю) пад старшынствам Язэпа Лёсіка, абмяркоўвалася пытаньне беларускай дзяржаўнай эмблемы і беларускага нацыянальнага сьцягу. Прымаючы пад увагу, што большасьць так званых гарадзкіх думаў Менскай губерніі на сваіх старых пячатках мелі Пагоню (яшчэ пры мне ў 1917 годзе Слуцкая гарадзкая дума ўжывала такую пячатку), пастаноўлена - прыняць, як спадчыну па Вялікім княстве Літоўскім, за дзяржаўную эмблему старадаўнюю Пагоню.*

*У справе колераў для беларускага нацыянальнага сьцягу Камітэт кіраваўся тым меркаваньнем, што на ўсіх мастацкіх вышыўках, як жаночае, так і мужчынскае вопраткі (пераважна кашулі), а таксама на розных іншых мастацкіх вышыўках - на настольніках, рушнікох і таму падобных, - і ужывалася пераважна, калі нават ня выключна, колеры чырвоны і белы, таму пастаноўлена было ўстанавіць гэты сьцяг з трох аднолькавай шырыні палотнішчаў: белага, чырвонага і белага. Даўжыня гэтага сьцягу павінна была быць удвая большая, чымся шырыня ўсіх трох палотнішчаў. Адначасна Камітэт даручыў сяброўцы Камітэту, дачыцы беларускага пісьменьніка Ядвігіна Ш. (Лявіцкага), а пазьней жонцы Язэпа Лёсіка, пашыць такія сьцягі і разаслаць іх ва ўсе паветы Меншчыны ды ўсе беларускія арганізацыі. Такі сьцяг з залатым надпісам "Няхай жыве вольная Беларусь" я атрымаў у Слуцку ў траўні 1917 года і ён быў вывешаны ў будынку Слуцкага Павятовага Камісарыяту.*

*25 сакавіка 1917 году ў памяшканьні Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску пад N 25 па Захар'еўскай вуліцы адбываўся агульны Беларускі Зьезд, які апрабаваў прынятую пастанову Беларускага Нацыянальнага Камітэту аб сьцягу і ў гэты ж дзень будынак, у якім адбываўся зьезд, быў упрыгожаны такім сьцягам, і такія ж сьцягі ў павялічаным фармаце павявалі на вуліцы пры гэтым будынку.*

*Падчас Першага Усебеларускага Зьезду, які мы цяпер называем Кангрэсам, на будынку Менскага гарадзкога тэатру і ўнутры (дзе адбываўся зьезд), павявалі бел-чырвона-белыя сьцягі, якія вельмі не падабаліся бальшавікам. Адзін з іх (бальшавікоў), падчас прамовы, адважыўся сказаць: "Выбросьте эту тряпку!" Гэта так абурыла прысутных дэлегатаў, што яму ня далі дакончыць ягонае прамовы. Ад таго часу ніхто ніколі, наколькі я памятаю, не рабіў ніякай засьцярогі адносна ўстаноўленых дзяржаўнае эмблемы і нацыянальнага беларускага сьцягу.*

*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі таксама прыняла іх без усякае засьцярогі.*

*Радаслаў АСТРОЎСКІ.*

## БЕЛАРУСКІЯ НАЦЫЯНАЛІСТЫЯ НА МАРШЫ

**Адраджэньне беларускага нацыяналістычнага руху, пасьля ягонага зьнішчэньня на Бацькаўшчыне ў 1940-50 г.г., ідзе павольна, але пэўна і няспынна. За апошнія гады быў створаны шэраг правых арганізацыяў, якія ўжо вядомыя ня толькі на Беларусі, але і па-за яе межамі: Беларуская Партыя Свабоды (БПС), Беларуская Нацыяналістычная Арганізацыя "Правы Рэванш" (БНА "ПР"), Беларуская Нацыянальная Партыя (БНП). У лістападзе 1994 года ў Віцебску прайшоў першы Зьезд беларускіх нацыяналістых. У лютым сёлета беларускія правыя займелі свой уласны друкаваны ворган - газету "ZA VOLU".**

Канешне, нельга параўноўваць па ўплыву і лічнасьці беларускія правыя партыі з украінскімі альбо летувіскімі. На Украіне, напрыклад, нацыяналістычны рух існуе ўжо не адзін год ды і не на пустым месцы ён там ствараўся. У свой час украінскія эмігранцкія арганізацыі і партыі прыклалі шмат высілкаў, каб займець прыхільнікаў на Бацькаўшчыне і перанесьці сюды сваю асноўную дзейнасьць. Акрамя таго, на Заходняй Украіне жыве шмат былых сяброў ОУН, ветэранаў УПА ды проста сімпатыкаў нацыяналістычнай ідэі, якая мае моцнае апірышча - грэка-каталіцкую царкву. Украінская эміграцыя падтрымлівала ўкраінскі правы рух і маральна і матэрыяльна. У шэрагах УНА-УНСО шмат моладзі, якая атрымлівае парады, дапамогу ад ветэранаў вызвольнай барацьбы. Украінскія нацыяналістыя праводзяць актыўную прапаганду сярод насельніцтва, маюць нямала друкаваных выданьняў, што пашыраюць іх ідэі.

Зьяўленьне беларускіх нацыяналістычных арганізацыяў было ініцыятываю патрыятычнай моладзі. Беларуская эміграцыя, на жаль, ужо не магла ім дапамагчы... У 1991 годзе ў Заходняй Нямеччыне памёр генерал, сябра ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі, кіраўнік арганізацыі "Беларускі Вызвольны Фронт" Дзьмітры Касмовіч. З яго сьмерцю БВФ, практычна, спыніў сваю дзейнасьць. Яшчэ раней перастала існаваць арганізацыя "Беларускі Вызвольны Рух". Са сьмерцю генерала М.Дзямідава, атамана І.Перагуда, а таксама большасьці сяброў, ня стала Саюзу Былых Удзельнікаў Збройнай барацьбы за Вызваленьне Беларусі. Рада БНР і Беларуская Цэнтральная Рада ня маюць ужо былой моцы і ўплыву, ды толькі сымбалічна перахоўваюць ідэалы 25 Сакавіка 1918 года.

Цяжка было беларускім нацыяналістым знайсьці падтрымку і на Беларусі. Ацалелыя ўдзельнікі антысавецкага партызанскага і падпольнага руху 1940-50 гадоў не аб'яднаныя і не выяўляюць вялікай актыўнасьці. Але энтузіястычная беларуская моладзь здольная дамагчыся сваёй мэты - стварэньня моцнага, лічнага Беларускага нацыяналістычнага руху. Апошнія палітычныя падзеі толькі садзейнічаюць яго росту і ўзмацненьню.

І ўсё ж пераемнасьць сёньняшняга і ўчорашняга беларускіх правых рухаў ёсьць. Адроджаная газета Беларускай Незалежніцкай Партыі і Беларускай Вызвольнай Арміі "ZA VOLU". Першы зьезд беларускіх нацыяналістых прайшоў у Віцебску - у тым горадзе, дзе ў 1941-43 г.г. жылі і праводзілі легальную і падпольную дзейнасьць старшыня ЦК БНП Усевалад Родзька і сябра БНП Міхась Рагуля (рэдактар падпольнага "Бюлетэню БНП"). У гэтым горадзе пасьля вайны было моцнае антысавецкае падпольле, на рахунку якога дыверсійныя і прапагандовыя акцыі, друкаваньне антысавецкіх улётак у друкарні "Витебского рабочего". Зусім нядаўна аб сабе заявіла ў Кобрыне падпольная арганізацыя "Беларуская Вызвольная Армія", праўдападобна, прэтэндуючая працягнуць справу змагароў БВА ген.Вітушкі. І я не зьдзіўлюся, калі ў прэсе зьявіцца падобная аб'ява:

"Сьпяшаюся паведаміць прыхільнікаў групы "Чорны Кот", што зьвесткі аб нашай сьмерці не адпавядаюць сапраўднасьці. Пасьля працяглых творчых пошукаў група ізноў прыступае да гастрольнай дзейнасьці

Спадар Лось"

Зазначым, што "Лось" - псеўданім генерала Міхала Вітушкі, кіраўніка партызанкі "Чорнага Ката" з 1944 г.

Расейская агрэсія супраць Чачні, вайна ў Таджыкістане прымушае нацыяналістычныя сілы актывізаваць сваю дзейнасьць. Небясьпека чарговай акупацыі сёньня вельмі вялікая. Гэта добра відаць па дзейнасьці "пятай калоны", што не хавае свайго сапраўднага твару і, здаецца, ужо нічога не баіцца. Але дарма! Беларускія нацыяналістыя шчыльнымі шыхтамі выходзяць на вуліцы і плошчы, каб абараніць Бацькаўшчыну ад расейскага фашызму. Яны маладыя, адважныя, дужыя! З імі праўда, з імі традыцыя вызвольнага змаганьня. За імі будучыня!

**Міхась ШУКАЙЛОВІЧ.**

## ЯК ЗЬНІШЧАЛІ БЕЛАРУСКУЮ НАРОДНУЮ ПАРТЫЗАНКУ

**Беларуская Народная Партызанка паўстала ў 1942 годзе, калі беларускія каманьдзіры патрыятычных лясных аддзелаў правялі дзьве нелегальныя канферэнцыі (у чэрвені і лістападзе). БНПартызанка стаяла на пазіцыях 25 Сакавіка, а таму была як антыгітлераўскай, гэтак і антыкамуністычнай. Яга стасавала тактыку ператрываньня, г.зн. "утрыманьня па магчымасьці ўсіх збройных сілаў, да часу, калі яны будуць патрэбныя, каб вырашыць долю нашага народу і краю". Да лістападаўскай канферэнцыі аддзеламі БНП кіравала "Лава каманьдзіраў (атаманаў)". У лістападзе 1942 г. паўстаў Галоўны Штаб беларускага Партызанскага Руху на чале з палкоўнікам Іванам Шанько, атаманам партызанскага аддзелу ў Воўчых Норах на Ражаншчыне. БНП падтрымоўвала сувязі з нелегальнаю Грамадою, якая зьдзяйсьняла палітычнае кіраўніцтва, а таксама з Беларускаю Самааховаю (БСА). У Заходняй Беларусі аддзелы народнае партызанкі налічвалі каля 3000 партызанаў.**

Устрывожаныя ростам Беларускага партызанскага руху, Маскоўскія бальшавікі (Панамарэнка, П.Калінін і інш.) пачынаюць засылаць у Заходнюю Беларусь вышкаленых чакістаў для зьнішчэньня або апанаваньня БНП. У 1942 г. каля Целяханаў была скінута першая група дыверсантаў на чале з капітанам Топкіным. Але савецкія дыверсанты ня здолелі падначаліць сабе беларускіх партызанаў. Тады на Беларускае Палесьсе ў траўні 1943 г. была скінута дыверсійная група палкоўніка Р.Лінькова (Лядаў, "Баця"), з усходу насоўвалася злучэньне савецкіх партызанаў ген.Капусты. Палк. Лінькоў, расеяц па нацыянальнасьці, на пачатку 1942 г. зьнішчыў нацыянальную партызанку юрыста Ул.Шавеля на Барысаўшчыне, пастраляўшы каманьдзіраў беларускіх партызанаў падчас перамоваў. І вось праз год пасьля таго злачынства, Лінькову Масква даручае зьнішчыць БНП ў Заходняй Беларусі.

Метад у чакістаў быў стандартны - запрашэньне на перамовы аб "супрацы". Палк. Лінькоў запрашае на сустрэчу палк. Шанько, паабяцаўшы беларусам дапамогу медыкаментамі і зброяй. На сустрэчу з "дэлегатам з Масквы" палк.Шанько прыехаў толькі ў суправодзе аднаго аб'ютанта...

Ужо ў пачатку сустрэчы ў Ражанскай пушчы Лінькоў забівае Шанько стрэлам з рэвальвера ў патыліцу... Пачынаецца зьнішчэньне маскоўскімі агентамі БНПартызанкі. Яны апаноўваюць адзін за адным Беларускія атрады, зьнішчаючы іншых каманьдзіраў і выдатнейшых сяброў, метадамі правакацыі, абвінавачваючы праз сваіх падасланых людзей іх у супрацы з нямецкімі сьпецслужбамі. Сам Лінькоў адразу па забойстве Шанько захапіў кіраўніцтва ў ягоным атрадзе, паведаміўшы партызанам, што іх атаман... паляцеў у Маскву на перамовы. Былі зьнішчаныя па-здрадніцку аддзелы БНП ат.Лясьніка, ат.Патубейкі, ат.Суворава (Лукашука) і інш. Некаторыя атрады БНП, ратуючыся ад зьнішчэньня, вышлі з леса і увайшлі ў склад беларускай самааховы (Быцень, Косава і Слонім). Каля 10 атрадаў беларускіх партызанаў былі падначаленыя савецкімі дыверсантамі. Сем'і партызанаў, якія былі пры атрадах, былі аддзеленыя чакістамі ад мужчын і ўгнаныя на іншыя месцы, дзе ўтрымліваліся як закладнікі. У канцы 1943 года пры таямнічых абставінах загінуў кіраўнік нацыянальнай партызанкі ў белавежскай пушчы ат.Канстанчук (былы сябра ЦК КПЗБ - нацыянальнай Сэцэсіі). Па адной з версій, ён быў забіты агнетам Лядава падчас нападу немцаў на беларускіх партызанаў. Гэткім чынам, калі агенты чакістаў стралялі ў сьпіны, загінулі дзесяткі грамадоўцаў-партызанаў. Ад рук дыверсантаў ген.Капусты загінуў дзеяч Грамады, сувязны БНПартызанкі Уладзімір Альшэўскі. Агентамі Лядава быў забіты Язэп Урбановіч, кіраўнік антыфашыстоўскага камітэту ў Берасьці і кіраўнік колькіх савецкіх партызанскіх аддзелаў. Справа ў тым, што Урбановіч, як сьведка забойства палк.Шанько, пасьпеў паведаміць праз сувязістку Грамады ў Іваცэвічах (пасьля павешаная па загаду Лінькова), што ён не вінаваты й атрымаў моцны шок ды параіў ратавацца сябрам беларускага партызанскага руху. Урбановіч таксама паабяцаў Лінькову, што той адкажа за свае злачынствы.

"Навёўшы парадак" на заходнебеларускім Палесьсі, палк.Лінькоў падаўся далей на захад, у Польшчу, дзе яго чакалі чарговыя "адказныя даручэньні" маскоўскага кіраўніцтва. На грудзёх ягоных ужо вісела зорка героя Савецкага Саюза... Нават былы начальнік штабу Брэсцкага злучэньня савецкіх партызанаў Павал Пранягін ня мог дараваць Лінькову ягоных злачынстваў. Ён пісаў пасьля вайны: "Некоторые из десантников вели себя высокомерно, чрезмерно превозносили свою деятельность и с презрением относились к массовому партизанскому движению.

Не могу умолчать о полковнике Линькове. Он расстрелял без расследования и партизанского суда ни в чём не повинного камандира партизанского отряда им.Кирова майора Нищенкова, а затем проявил кощунство, описав в книге "Война в тылу врага" в ложном свете связанные с этим события".

На Віленшчыне народныя партызанскія атрады зьнішчаў або падпарадкоўваў савецкаму кіраўніцтву палк.Вапшасаў. Гэта ён расстраляў аддзел т.Іванова за адмову падпарадкавацца чакістам. У жывых засталіся два маладыя партызаны, якія "раскаяліся"...

А колькі беларускіх партызанаў загінула ў баёх з чакістамі ў Цэнтральнай і Усходняй Беларусі! Так, напрыклад, на Браншчыне загінуў аддзел беларускіх эсэраў "Вольнасьць".

Ацалелі ў баёх з чакістамі і савецкімі партызанамі лічаныя беларускія аддзелы. Яны ваявалі і супраць бальшавікоў пасьля ліпеня 1944 г. Некаторыя, як атрады ат.Харэўскага, ат.Перагуда і ат.Таўпекі, прабіліся на Захад. Іншыя загінулі ў збройнай барацьбе з бальшавіцкім акупантам.

Шмат былых партызанаў БНП было кінута бальшавікамі на фронт, у "штрафбаты". Там большасьць іх і загінула. Але нямала партызанаў БНП вярнулася з фронту. Яны мелі савецкія ўзнагароды, вайсковыя рангі ды не хацелі ўспамінаць пра мінулыя "ошибки"...

Удзельнікі БНП, эміграваўшыя ў Амерыку, назвалі свой ваенны рух Беларускім Антыгітлераўскім Рэзыстансам. Яны ўсяляк стараліся пашыраць інфармацыю пра яго, але сустракалі супраціў нават іншых эміграцыйных груп, не гаворачы пра камуністаў. І Рада БНР і БЦР не былі зацікаўлены ў пашырэньні інфармацыі пра БНПартызанку, бо зусім па іншаму выглядае цяпер калабарацтва з немцамі. Ды й хмараўцы былі палітычнымі праціўнікамі Рады БНР і БЦР.

Беларауcкі Антыгітлераўскі Рэзыстанс засьведчыў імкненьне Беларускага Народу да незалежнасьці, самастойнасьці. Гераічныя сыны й дочкі нашага народу паўсталі супраць усіх акупантаў беларускай зямлі і палеглі непераможныя ў няроўным, але сьвятым змаганьні... Сёньня мы павінны пашыраць інфармацыю пра БНПартызанку, каб засьведчыць усяму сьвету, што беларусы ўжо ў 1941 годзе паўсталі супраць усіх акупантаў у змаганьні за беларускую дзяржаўнасьць.

**Ян ВЕЖАН.**

 

